ПУЛЬС

## Па картках паркоўкі

З 1 ліпеня плата за карыстанне ўсімі платнымі аўтастаянкамі ў Мінску, абсталяванымі паркаматамі, будзе рабіцца па безнаяўным разліку з дапамогай аднаразовых або абанементных картак паркоўкі. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінгарвыканкаме паведаміў дырэктар унітарнага прадпрыемства "Гаражы, аўтастаянкі, паркоўкі" Павел Дубовік.

Аднаразовыя карткі паркоўкі на 60 і 20 хвілін ужо прадаюцца ў кіёсках "Саюздруку", шматразовыя карткі зараз рыхтуюцца да выпрабу. Пры гэтым прадугледжаны выпуск ільготных картак для інвалідаў, а таксама для жыхароў, якія маюць дазвол на бясплатную паркоўку ў дварах па месцы жыхарства.

Да 2006 года горад будзе разбіты на 6 зон абавязковай паркоўкі, на ўездах у горад і каля ўваходаў у метро будуць будавацца шматузроўневыя аўтастаянкі. Будаўніцтва ж плоскасных аб'ектаў пасля завяршэння будаўніцтва 44 гаражна-будаўнічых кааператываў і шасці аўтастаянак (на вуліцах Прушынскіх, Слабадская, Ляшчынскага, Сухараўскай) у сталіцы спыніцца, заявіў П.Дубовік.

"Мы ствараем механізм, які будзе стрымліваць напор аўтатранспарту на цэнтральную частку горада, прызначаную для адпачынку людзей", — падкрэсліў старшыня праўлення Беларускай асацыяцыі экспертаў на транспарце Юрый Важнік.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Ці любіце вы экалагічнае кіно?

23—24 красавіка ў сталіцы пройдзе першы Мінскі міжнародны фестываль экалагічнага кіно "Ekafilm". На ім будзе паказана 26 конкурсных і пазаконкурсных дакументальных, адукацыйных, анімацыйных фільмаў і сацыяльных ролікаў. Запланаваны тры прэм'ерныя паказы — фільм "Жывіце ў гармоніі" беларускага рэжысёра Ігара Бышнёва, "Лазневы дзень, ці Маленькая энцыклапедыя птушак" эстонскага рэжысёра Рэйна Марана. На фестывалі запланаваны прэм'ерны паказ поўнаметражнай стужкі "Дзяўчынка па імені Каліна" японскага рэжысёра Акіёсі Імадзэкі, якая расказвае пра лёс дзяўчынкі, што жыве ў чарнобыльскай зоне адсялення.

У дні фестывалю пройдзе "круглы стол" з удзелам журналістаў, кінематаграфістаў, навукоўцаў-эколагаў, прадстаўнікоў дзяржаўных устаноў і экалагічных арганізацый.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## На Гімалаі

Да актыўнай фазы ўзыходжання днямі прыступаюць удзельнікі першай беларускай экспедыцыі на шосты па вышыні "васьмітысячнік" планеты — вяршыню гары Чо-Ойю. Яе вышыня складае 8 тысяч 848 метраў.

Як паведаміў арганізатар экспедыцыі, старшыня Беларускай федэрацыі альпінізму Аляксандр Гадлеўскі, цяпер чацвёра беларускіх альпіністаў, якія стартавалі з Мінска 6 красавіка, ужо знаходзяцца на Паўночных Гімалаях на вышыні 4 тысячы метраў. Маршрут экспедыцыі вельмі складаны. Гара Чо-Ойю ў вясенні перыяд адметная багаццем снегу, нізкімі тэмпературамі (ніжэй за 50° С) і моцнымі ветрамі, хуткасць якіх можа перавышаць 200 кіламетраў за гадзіну.

Мяркуецца, што экспедыцыя завершыцца 16 мая.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Прыбытак «Прыорбанка»

Уласны капітал "Прыорбанка", найбуйнейшага прыватнага банка Беларусі, у першым квартале гэтага года вырас на 6 працэнтаў і склаў на 1 красавіка 200 млрд. рублёў (93 млн. долараў ЗША). Зарэгістраваны статутны фонд складае 25,8 млрд. рублёў.

Прыход аўстрыйскага "Райфайзенбанка" ў акцыянерны капітал пашырыў інвестыцыйныя магчымасці "Прыорбанка" і дазволіў прыцягнуць у краіну дадатковыя крэдытныя рэсурсы для наступнага фінансавання дзяржаўных прадпрыемстваў, прадпрыемстваў малога і сярэдняга бізнесу, крэдытавання насельніцтва. "Прыорбанк" акцэптаваны ва ўсіх замежных дзяржаўных агенцтвах страхавання экспартных кантрактаў і мае магчымасць прыцягваць замежныя крэдыты ў краіну без прадастаўлення гарантый з боку ўрада Рэспублікі Беларусь, што дазваляе фінансаваць доўгатэрміновыя інвестыцыйныя праекты.

## Сцеражыцеся, хакеры!

Кампанія "Лабараторыя Касперскага", адзін з вядучых расійскіх распрацоўшчыкаў праграмных прадуктаў для засцярогі ад вірусаў, хакерскіх атак і спама, пашырае сваю прысутнасць на беларускім рынку. З красавіка 2004 года ў Беларусі пачаў працаваць афіцыйны прадстаўнік кампаніі.

"Лабараторыя Касперскага" была заснавана ў 1997 годзе.

Сёння адкрыты яе прадстаўніцтвы ў Вялікабрытаніі, Францыі і ЗША (Каліфорнія). Партнёрская сетка аб'ядноўвае больш за 500 кампаній па ўсім свеце.

**Аляксей АРЭШКА.**

*Вясновыя турботы...*

photo.bymedia.net

СПОВЕДЗЬ

# Ад бацькі, маці, роднай зямліцы...

**Аляксей МІКУЛІЧ, вядучы навуковы супрацоўнік Аддзела антрапалогіі і экалогіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар біялагічных навук, сапраўдны член Міжнародных акадэмій экалогіі і геранталогіі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, намеснік старшыні Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў**

## Род

Нарадзіўся я ў вялікай працоўнай сям'і Кацумараў на Міколу, 19 снежня 1934 г., у вёсцы Жарабковічы Ляхавіцкага павета Баранавіцкай воласці (тады Заходняя Беларусь, Польшча) другім па ліку дзіцем. Першы памёр ад запалення лёгкіх у гадавалым узросце. Пасля нарадзілася яшчэ трое дзетак.

Мой род па бацьку мае даволі старажытнае паходжанне. У ЦДАСтА (Масква) у фондзе 389, вопіс 1, справа 39, лісты 175—177 захоўваецца Пацвярджэнне Жыгімонта Аўгуста Станіславу Гзоўскаму аб перадачы маёнтка Ведзьма ў поўную ўласнасць (10 жніўня 1558 г). Сярод пераліčаных людзей цяглых называецца Манец Мікуліч разам з яго патужнікам Манюком.

Татаў дзед, а мой прадзед Ігнат нарадзіўся у шматдзетнай сям'і Міхала Янкава Мікуліча. Там жылі разам яго брат Пётр, сёстры Парася і Палуся, яшчэ два бацькавы браты — Бенедзікт і Мацей з жонкамі Мартай і Хрысцінай, дзецьмі Сальвесем, Іосіфам і Матэвушам. Зямлі мелі адну валоку. Было ў іх 3 кані, 4 валы, 2 каровы, 10 авечак, 5 свіней, 3 вуллі пчол (Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, фонд 142, вопіс 1, д. 1619. Інвентар іменія Ляхавічы, 1847 г.).

Ігнат ад прыроды быў надзвычай масцеравым чалавекам. Яшчэ ў сваім дзяцінстве я бачыў у нашым доме шмат самаробных прылад для сталярнай і бандарнай работы, яго рукамі зробленыя кадушкі, куфар, калёсы, сані, стол і табурэткі. Паколькі, нарадзіўшыся ў шматдзетнай сям'і, ён не атрымаў асабістага надзелу зямлі, то не меў права ажаніцца і вымушаны быў ад'ехаць на заробкі ў Амерыку. Праз колькі год вярнуўся дадому з доларамі, за якія купіў зямлю, ажаніўся. Вельмі любіў коней. Едучы па вёсцы на прыгожым жарабцы, ён вітаўся з аднавяскоўцамі на ангельскай абрэвіятуры "во цу мар ю" — нешта накшталт: "я бачу далёкае мора". Так і засталася за ўсімі яго нашчадкамі вясковая мянушка — "вацумары", а пазней — "кацумары". Нават маіх сыноў, якія раслі ў вёсцы, а потым часта наязджалі да сваіх дзядоў, дагэтуль называюць кацумаравымі дзецьмі.

Мой радавод па татавай лініі можна ўпэўнена падоўжыць менавіта да Манеца Мікуліча. Апошні быў цяглым (разам з канём) селянінам сярод іншых баяр і чэлядзі. ("Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Ляхавіцкага раёна". Мн. 1989. С. 61—62). Бацькава маці Цанка паходзіла з баярскіх родаў Гадуноў і Лабажэвічаў з Нясвіжчыны (вёскі Хадатавічы і Жылічы).

## Маці

Род маёй маці Лідзіі Адамаўны не меней знакаміты. Дзед Адам Кляменцьевіч нарадзіўся ў сям'і Левашоў, якая мела шмат гектараў ворыўнай зямлі, пашы і лесу. Дзед Адам атрымаў у надзел каля 10 га, навучыўся грамаце, пабудаваў на пачатку 20-х гадоў адзін з прыгажэйшых на вёсцы дамоў з ганкам на вуліцу. Меў пасаду пажарнага стражніка. У дзедавай сям'і нарадзілася шмат дзяцей, дажылі да сталасці 6 дачок і 2 сыны. Але надышоў верасень 1939 г. З гэтага часу я помню амаль кожны дзень свайго жыцця. І як радасна вёска сустракала Чырвоную армію! Колькі было кветак! Мора! У кожны дом запрашалі на пачастунак па некалькі вайскоўцаў. Калі мама падала на стол сала, агуркі з бульбаю, пайшла бяседа. Старэйшы, магчыма, афіцэр, кажа: "Мы принесли вам свободу от панов, теперь вы все будете равными!" На што атрымаў адказ: "Не, сынок, не параўняў Бог лесу, не параўнуеце вы людзей". У той жа дзень мы з мамаю пайшлі ў госці да дзеда Адама. Мне не споўнілася яшчэ пяці год. Дзед высока падняў мяне на рукі. Больш я яго ніколі не бачыў... Праз тыдзень тры вясковыя злыдні-галадранцы пад выглядам барацьбы з заможнымі сялянамі забілі самага дбайнага гаспадара. Вечная памяць яму і пашана ад нас, нашчадкаў.

Яго жонка, маміна маці Ганна, паходзіла таксама з пісьменнай сям'і ў Жарабковічах. Гэта род Праневічаў (у вышэй згаданай купчай — Пранкевічы), якіх яшчэ называлі Дарагенькімі. Чаму? А за тое, што мой прадзед служыў пісарам ва ўправе, і за напісаныя ім розныя афіцыйныя паперы ці скаргі яму плацілі залаты рубель. (Таму і "дарагенькі"). Маме дасталася ад яго пяцірублёвая манета. А ішоў тады ёй пяты год ад нараджэння ў траўні 1912 г.

Наогул, мама пражыла цяжкае жыццё. Нарадзілася ў блізнятах разам з братам Валодзем. Яе мама, а наша бабуля пры родах памерла, а дзеда праз два гады забралі на фронт у Першую сусветную вайну. Самых малых дзяцей забралі ў Мінскі прыют, які потым стаў і да апошніх год заставаўся дзіцячым прыёмнікам па Абутковай вуліцы. Абодва мае дзядзькі, маміны браты Міхаіл і Валодзя Левашы, адзін на пачатку дваццатых, а другі напрыканцы трыццатых, перайшлі праз мяжу з Заходняй Беларусі ў Савецкую Расію. Але іх лёс аказаўся далёка не аднолькавым. Калі першы быў прыняты і прызнаны, то другога палічылі за польскага шпіёна і накіравалі спачатку на вайну з японцамі на возеры Хасан, а потым на лесапавал у Комі, ГУЛАГ каля Ухты. Там ён згінуў і пахаваны. Яшчэ пры жыцці ён быу рэабілітаваны як палітычны вязень, лічу, ён мае права на гістарычную памяць і павінен быць занесены ў Кнігу памяці Ляхавіцкага раёна (гады жыцця 1912—1972).

## Повязь

Цяпер пра сябе, аб тым, што помніцца з жыцця да- і пасляваеннай вёскі. Усе нашы вяскоўцы былі надзвычай працавітыя. Недзе да канца шасцідзесятых — пачатку сямідзесятых на сяле гультаявалі не болей як 2—3 п'янчугі.

Вучыўся я добра. Дома няньчыў малодшых братоў і сястру, улетку разам пасвілі кароў і авечак. Дзіцячымі гульнямі былі пікар, мячык, хованкі, манеўры, зімою — самаробныя канькі, санкі і лыжы. Амаль кожны вечар моладзь збіралася каля клуба. Раз на тыдзень прывозілі з райцэнтра кінаперасоўку. Пасля кіно хлопцы і дзяўчаты танцавалі, спявалі. Наша мама навучыла таньчыць дзяцей. Марыла, каб хоць хто з нас навучыўся граць на гармоніку. Асабліва весела праходзілі Калядныя і Велікодныя святы. Потым я ніколі не чуў столькі валачобных песень на вуліцы. Чуліся жарты, прыпеўкі, а часам і вострыя кпіны.

Сяляне ашчадна ставіліся да прыроды, берaглі навакольныя лугі і гаі. Кожная пара года звычайна помніцца па каляндарна-абрадавых песнях вясны (валачобныя і юраўскія), лета (купальскія і жніўныя), восені (вясельныя і спасаўскія), зімы (каляд і шчадровак). Бацькі заўсёды ішлі касіць і жаць, збіраць зёлкі абавязкова ў чыстай бялізне. Доўгімі зімовымі вечарамі збіраліся з кудзеляй па чарзе ў вялікіх хатах, там жа ладзіліся ігрышчы і вясёлыя гульні.

Жыхары суседніх сёлаў лічылі жарабкоўцаў даволі заможнымі. Думаю — не без падстаў. Справа ў тым, што нашы землі, асабліва ворыўныя, былі адны з лепшых у раёне. З болей чым ста двароў, можа, 5—7 гаспадарак лічыліся беднымі з-за непрацаздольнасці або шматдзетнасці гаспадароў. У большасці двароў трымалі 2—3 каровы, многа авечак, каня, а то пару і болей. Пачалі набываць механізаваныя прылады працы, такія як малатарні, малацілкі, конныя жнейкі і сенакасілкі. Са слоў маці, такая тэндэнцыя да заможнасці пачалася і захавалася з сярэдзіны 30-х гадоў — з польскага часу, нягледзячы на кароткую калектывізацыю саракавога года. Адразу пасля вайны, да ўтварэння калгаса ў 1949 г., працягвалі працаваць аднаасобна. Але ж новая ўлада, так званыя "другія саветы", аблажыла кожную сялянскую гаспадарку неверагодна высокімі падаткамі. Плацілі за кожную курыцу на двары, за кожнае пладовае дрэўца ў садзе.

Насуперак усім цяжкасцям вёска працягвала працаваць. Руплівы селянін ніколі не ўяўляў свайго жыцця без паўсядзённай работы. У першыя гады пасля суцэльнай калектывізацыі, а затым і меліярацыі чакалася значнае паляпшэнне сельскай гаспадаркі. Аднак, прывыкаючы да калектыўнай працы, чалавек паступова пачаў траціць беражлівасць да яе вынікаў, губляў руплівыя адносіны да асабістай уласнасці. Навукова неабгрунтаваная меліярацыя, празмерная хімізацыя глебы пачалі імкліва разбураць вёску і дасканаласць прыроды. Савецкая ўлада так і не здолела ўсвядоміць, што пазбегнуць біясацыяльных катастроф можна толькі праз непарушнасць экалагічных працэсаў, якія фарміравалі навакольны свет тысячагоддзямі. І сёння яшчэ не зніклі рытуалы мудрых продкаў, якія спрыяюць захаванню цыклаў народнага календара.

Сярод такіх традыцый і павер'яў нашых продкаў многія прысвечаны вадзе. Дагэтуль лічыцца, што крыніца адчыняе зямныя нетры, яе вада гаючая для чалавека і жывёліны. Без чалавечай памяці крыніца перасыхае. Беражлівыя, паважлівыя адносіны да вады (не плюнь, не напаскудзь) выхоўвалі і нас, дзяцей. Бацька зранку не рабіў шагу са свайго двара, не абмыўшы твар вадою. Да гэтага часу добра помняцца такія выслоўі: хлеб — бацька, вада — маці. Трэба пакланіцца, каб з ключа вады напіцца. Якая крыніца — такі і гаспадар. Красна рэчка берагамі. Карацей, без глыбіннай повязі з прыродай няма чалавечага жыцця.

А вёска Жарабковічы ўмела жыць, працаваць, спяваць, кахаць, вучыцца. Вядомы фальклարыст і музыка, пазней — народны артыст СССР Генадзь Цітовіч кіраваў вясковым хорам, Міхась Раманюк вывучаў строі адзення. Традыцыйная духоўная культура сяла трымалася недзе да васьмідзесятых гадоў. Зараз гэта новая вёска, там жывуць іншыя людзі, многія з якіх мне мала вядомыя.

У 1998-м, на 87-м годзе жыцця памерла наша дарагая мама. Вельмі шмат яна паспела расказаць пра сваіх, а таксама бацькавых дзядоў і прадзедаў. Тата памёр раней — у 1984 г. Апошнія дванаццаць год, ужо цалкам страціўшы зрок, мама заставалася мудрай жанчынай, выхоўвала нас у павазе да людзей і навакольнай прыроды, даглядала сябе і дом свой у чысціні, помніла Бога і продкаў. Яна навучыла нас шанаваць дрэва, культ якога быў вельмі распаўсюджаны ў старажытнасці. Мы ніколі не разбурылі гняздо ластаўкі ці якой іншай птушкі. Дзякуй табе, мама, за навуку! На жаль, сёння сапраўды не пазнаць ваколіцы Жарабковіч: высушана Кругліца, знішчаны Яцкаўскі алешнік, даўно няма Буракоўцаў і Валуя, зніклі Асадніцкія лугі. Прыродзе нанесена вялікая шкода...

## Навука

Колькі слоў пра тагачасную школу. Цікавымі і разумнымі, строгімі і патрабавальнымі нашымі выхавацелямі і настаўнікамі помняцца Пятрусь Ждановіч, Яўген Булат і іншыя. Бацькі заахвочвалі сваіх дзяцей вучыцца. На вялікі жаль, сялянская праца, асабліва калектыўная, з кожным годам губляла сваё выхаваўчае прызначэнне. За яе ні калгас, ні дзяржава ніколі адпаведным чынам не разлічваліся матэрыяльна. І моладзь пацягнулася да гарадскога жыцця, асабліва дзецюкі пасля службы ў арміі. Наш клас скончылі разам са мною потым вядомыя аграномы, настаўнікі. Напрыклад, Іван Карповіч, які нядаўна памёр на Слонімшчыне, пісаў прыгожыя лірычныя вершы, Вася Лойка стаў адмысловым аграномам, як і Валодзя Каляда, Сцёпа Праневіч — вайскоўцам.

Сам я пасля фельчарска-акушэрскай школы і службы у ваенна-марской авіяцыі вучыўся ў Мінскім медыцынскім інстытуце, на працягу трох год працаваў лекарам. Пасля адкрыцця пры Акадэміі навук мэтавай аспірантуры па генетыцы чалавека і антрапалогіі мяне накіравалі на вучобу ў Маскоўскі дзяржаўны універсітэт. Па тэме дысертацыі пабываў ці не ў кожным раёне Беларусі і на памежных тэрыторыях. Пасля абароны кандыдацкай дысертацыі па матэрыялах навуковых даследаванняў напісаў 7 навуковых манаграфій. Адну з іх "Генагеаграфія сельскага насельніцтва Беларусі" ў 1991 г. абараніў у якасці доктарскай дысертацыі. На новым метадычным і метадалагічным узроўні былі вывучаны экалагічны і гістарычны аспекты зменлівасці спадчынных прыкмет сучаснага насельніцтва. Зараз рэкамендавана да выдання апошняя кніжка "Беларусы ў генетычнай прасторы". Маю ганаровыя званні сапраўднага члена дзвюх Міжнародных грамадскіх акадэмій — экалогіі і геранталогіі.

Апошнія 10 год мае навуковыя даследаванні скіраваны на вывучэнне ўплыву чалавека на стан прыроды і прыроды — на яго здароўе. Гэтай тэме прысвечана навукова-папулярная кніжка "Прырода чалавека, чалавек у прыродзе". Калі гармонія ўзаемаадносін паміж грамадствам і навакольным светам не вернуцца на добразычлівую глебу, бяда напаткае нашых нашчадкаў вельмі хутка. Гэткую навуку, гэткую школу дае нам само жыццё.

*На здымку канца 50-х гадоў мінулага стагоддзя — часцінка роду Мікулічаў: мой тата Ігнат, мама Ліда і брат Іван (сядзяць — злева направа); я, сястра Вольга і брат Міхаіл (стаяць злева направа).*

**Аўтар.**

## Пагроза

Поруч вывучаюцца генетычныя і біякультурныя магчымасці адаптацыі (прыстасаванасці) сучаснага чалавека да экалагічна новых умоў існавання. Генафонд беларускага сельскага насельніцтва дазваляе сцвярджаць: яшчэ недзе да 60-х гадоў XX стагоддзя была ў яго трывалая здольнасць прыстасоўвацца да рэзкіх змен як сацыяльных, так і прыродна-экалагічных. Але змена сельскага ўкладу жыцця на гарадскі ўклад у першым-другім пакаленнях правакуе новыя хваробы цывілізацыі: алкагалізм, наркаманію, псіханеўралагічны дыскамфорт. У сваю чаргу павялічваецца рызыка мутагеннага і анкагеннага ўплыву на генетычны стан нашых органаў і тканак, асабліва пры сукупным уздзеянні мутагенаў і канцэрагенаў хімічнага і радыеактыўнага паходжання.

Мяняецца і духоўны стан моладзі, губляюцца асновы традыцыйнай культуры экалагічных паводзін, знікаюць этнічная самасвядомасць і гістарычная памяць.

Новыя матэрыялы даследаваных на малекулярным узроўні гарадскіх і сельскіх жыхароў дазваляюць удакладніць прынцыпы фарміравання іх магчымасці да новых умоў. З падобнымі даследаваннямі трэба вельмі спяшацца, каб цалкам расшыфраваць геном сучасных папуляцый чалавека. Бо кожны год у паловы і болей жыхароў Беларусі ўпершыню выяўляюцца тыя ці іншыя паталогіі, смяротнасць на працягу апошняга дзесяцігоддзя значна перавышае нараджальнасць, чаго не было спрадвеку (акрамя войнаў і эпідэмій). Варта ўсвядоміць: мы можам знікнуць наогул.

Таму разам з навуковай дзейнасцю мы з калегамі не стамляемся актыўна прапагандаваць экалагічныя веды сярод насельніцтва, весці прафілактычную дзейнасць. Дзеля гэтых мэтаў патрэбны супольныя намаганні навукоўцаў, лекараў, выкладчыкаў, экалагічных чыноўнікаў пры свабодным доступе да экалагічнай і медыцынскай інфармацыі, у правядзенні незалежнай экспертызы, дзяржаўнага экалагічнага маніторынгу чысціні пітной вады і паветра, прадуктаў харчавання. Галоўная мэта — праз сродкі масавай інфармацыі, на радыё і тэлебачанні дабівацца ад заканадаўчых арганізацый і ўладных устаноў прыняцця і выканання адпаведных законаў, іншых юрыдычных дакументаў па захаванні здароўя людзей, ахове водных рэсурсаў, лясных масіваў, зямных нетраў.

На жаль, нашыя захады не заўсёды бываюць плённымі. Як сказаў паэт — гіне свет без вайны: меліярацыя, хімізацыя, радыяцыя — скрозь наступаюць яны".

Але нікому не павінна быць дазволена пляжыць зямлю, рабаваць карысныя выкапні, прыродныя рэсурсы, забруджваць навакольнае асяроддзе. Усё гэта багацце належыць не толькі нам і нашым нашчадкам. Выхаванне экалагічна свядомых паводзін праводзіцца нашымі сябрамі ў школах, запісы выступаў распаўсюджваюцца на аўдыё- і відэакасетах сярод вучняў. Менавіта зараз можна набыць нашу навукова-папулярную кнігу "Ён і Яна: эцюды па генетыцы і эвалюцыі полу". Дзве міжнародныя па тэмах праблемы экалогіі культуры і духоўнасці і "Дэмаграфічныя праблемы Беларусі" былі скіраваны да вырашэння неадкладнейшых патрэб грамадства.

Прысвоенае мне разам з супрацоўнікамі аддзела антрапалогіі і экалогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі за комплекс навуковых работ па тэме "Чалавек і яго біякультурная адаптацыя" ганаровае званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь абавязвае працаваць яшчэ больш напружана і самаадданa. Менавіта зараз разам з расійскімі і польскімі калегамі працягваецца новая серыя даследаванняў сучаснага насельніцтва па размеркаванні структур ДНК на малекулярным узроўні, у залежнасці ад сацыяльнага і экалагічнага прэсінгу на здароўе чалавека і яго псіхалагічны настрой. Прынцыпам аховы Прыроды і Чалавека павінна стаць захаванасць усёй біялагічнай разнастайнасці, без чаго немагчымыя ўстойлівае развіццё грамадства, будучыня нашых нашчадкаў.

Гэта якраз тое, пра што, не валодаючы навуковымі тэрмінамі, даводзілі мне змалку мае мудрыя бацькі. З іх цёплай хаты пачынаецца дарога ў свет розуму і добрых спраў не толькі для мяне...

ДВА ВЗГЛЯДА

# Пока владельцем земли не будет тот, кто на ней работает, успехов в аграрном секторе не видать

Указ № 138 называется так — "О некоторых мерах по финансовому оздоровлению сельскохозяйственных организаций и привлечению инвестиций в сельскохозяйственное производство".

На президентском сайте в Интернете этому документу уделено большое внимание. Говорится, в частности, что Указ закрепляет комплекс первоочередных мер по повышению эффективности сельскохозяйственного производства и является юридической основой реализации ряда конкретных шагов по возрождению села.

Одним из новых направлений возрождения АПК становится приход в этот сектор предпринимательских структур. Подчеркивается, что объявленная президентом Республики Беларусь инициатива о передаче убыточных хозяйств предпринима телям в управление нашла положительный отзыв у представителей деловых кругов (как хочется желаемое выдать за действительное! — **Ред**).

Сейчас данная инициатива подкреплена мерами государственной поддержки. Указ предусматривает предоставление юридическим лицам, которые до 1 января 2006 г. стали владельцами имущества убыточных сельскохозяйственных организаций, отсрочки и рассрочки до пяти лет выплаты долгов этих убыточных хозяйств.

Несомненно, это значимый шаг со стороны государства в направлении повышения инвестиционной привлекательности отечественного агропрома.

Согласно документу, сельскохозяйственным организациям до 1 января 2009 г. предоставляется отсрочка по погашению задолженности по налогам и иным обязательным платежам в республиканский бюджет, а также задолженности за потребленные газ, электрическую и тепловую энергию. Это даст возможность сельхозпредприятиям вкладывать больше средств в техническое и технологическое обновление, реализовать бизнес-планы по выводу убыточного и низкорентабельного производства из кризиса, направлять деньги на развитие социальной сферы села.

В целом принятие закрепленных в Указе мер позволит значительно улучшить финансовое положение сельскохозяйственных организаций, уменьшить нагрузку на бюджет, привлечь инвесторов и повысить их заинтересованность в реорганизации убыточных хозяйств, гарантируя им стабильные долгосрочные преференции.

Примечательно, что предложения многих участников дискуссии на тему возрождения села, развернутой на сайте президента Республики Беларусь, совпадают с положениями нового указа. Так, авторы ряда посланий высказывались о необходимости отсрочки выплаты или списания долгов сельхозпроизводителям, которые потенциально могут выйти в категорию прибыльных. Кроме того, по мнению людей, неподъемные для предприятий долги как раз и тормозят приход в агропромышленный комплекс инвесторов.

Участники дискуссии считают, что земле сегодня необходим крепкий хозяин, способный наладить эффективное сельхозпроизводство, желающий работать на этой земле долгие годы и лично заинтересованный в результатах своего труда. Указ президента Республики Беларусь № 138 создает для этого необходимые условия.

В целом новый нормативный правовой акт призван кардинально изменить ситуацию, сложившуюся на сегодняшний день в агропромышленном комплексе страны, дать толчок развитию сельскохозяйственного производства, сделать его инвестиционно привлекательным. Это шанс сотням убыточных хозяйств преодолеть кризис, наладить эффективное производство и стать прибыльными.

Так комментирует Указ №138 президентский сайт. А вот мнение эксперта.

# Указ не решает главного вопроса

*Никакие льготы не сделают инвестиции в сельское хозяйство привлекательными, пока не будет решен самый главный вопрос — о земле. Об этом в беседе с корреспондентом БелаПАН заявил председатель исполкома республиканского общественного объединения "Альтернатива — XXI" Сергей Балыкин, комментируя вступивший в силу 23 марта Указ президента № 138 "О некоторых мерах по финансовому оздоровлению сельскохозяйственных организаций и привлечению инвестиций в сельскохозяйственное производство".*

*"Указ президента предоставляет различные льготы потенциальным инвесторам в сельское хозяйство Беларуси, но он не решает и не может решить самого главного вопроса — вопроса о передаче инвесторам права собственности на землю, — сказал независимый эксперт.*

*— Без этого все эти льготы превращаются в пустоту, поскольку инвесторам предлагается приобретать долги сельскохозяйственных предприятий, которые зачастую превышают стоимость их основных средств".*

*При этом С.Балыкин напомнил, что, согласно Конституции, земли сельскохозяйственного назначения находятся в исключительной собственности государства и частная собственность на такого рода земли не допускается.*

*"Даже отсрочка в уплате долгов не решает проблему сельскохозяйственных предприятий", — отметил председатель исполкома РОО "Альтернатива — XXI".*

*— Эти проблемы были бы намного более эффективно решаемы при помощи механизма банкротства — ликвидации убыточных сельхозпредприятий, списания их задолженности и передачи имущества более эффективным собственникам. Но, к сожалению, применению механизма банкротства в сельском хозяйстве мешают идеологические установки руководства страны".*

*Лидер общественного объединения также отметил, что, поскольку "оборот земли сельскохозяйственного назначения в стране запрещен, то это не позволяет использовать землю как высоколиквидный актив, например, в качестве залога для получения банковских кредитов".*

ПОЧЕМУ?

## Сам себе вопросы задаю

А их накопилось — воз и маленькая тележка. Ну, например: почему мы живем все хуже и хуже, а на зарплаты и пенсии при всем их "повышении" можно купить все меньше и меньше? Почему после десяти лет задуривания наших голов интеграцией с Россией с нами мало считаются в той же России и во всем остальном мире? Почему в теле- и радиоэфире, на страницах официальных газет ничего не узнаешь о точке зрения на происходящее деятелей демократического толка, да и простых людей, которые говорят не "что изволите?", а правду о народной нищете и беспросветье?

Сам себе отвечаю: потому что власти закрыли всем рты своими законами и декретами, астрономическими штрафами, нарами за голос протеста. И есть люди, которые смирились с этим и не верят, что уже можно что-то изменить. А я верю: надо только не сидеть как мышь под веником.

Конечно, не о баррикадах и революциях веду речь — в XXI веке это недопустимо. А о том, чтобы каждый встряхнулся и спросил сам себя, как и я: а кто же всё, что нас сегодня возмущает, допустил? Разве не мы сами во многом виноваты? Своим равнодушием, апатией, неверием в собственные силы мы, подчас того не сознавая, "выбрали" себе эту жизнь. Голосовали, не слишком утруждая себя раздумьем: понимаем ли, кого выбираем, и зачем галочку ставим в бюллетене, где начальство укажет? А теперь ахаем, клянем судьбу.

Давайте повинимся перед собой, людьми, детьми и внуками за прошлые ошибки, чтобы не наделать новых. Давайте стряхнем страх и станем поддерживать тех, кто заслужил наше уважение и доверие. Тогда не придется в отчаянии вновь и вновь вздыхать: и когда этот беспредел закончится? Мы сами с ним справимся, и внуки скажут нам спасибо.

**Александр Константинович ФЕДОРЧЕНКО, участник Великой Отечественной войны.**

*г. Речица.*

## З Полацка пацягнула тытунём

1 мільярд цыгарэт у год — такую дзяржаўную квоту на выпуск вельмі ходавай прадукцыі атрымала ў выніку некалькіх год чакання і "прабівання" розных інстанцый Полацкае беларуска-багамска-расійскае сумеснае тытунёвае прадпрыемства "Белпрото".

Нягледзячы на ўсім вядомую шкоду ад палення тытуню, кіраўніцтва горада вельмі задаволена стварэннем СП. Па-першае, яно скараціла на 120 чалавек чаргу беспрацоўных, а па-другое, частка прыбытку ад продажу тытунёвых вырабаў (а іх будзе каля 15 назваў) пачне паступаць у гарадскую казну і дапаможа выканаць напружаную фінансавую праграму.

Першыя полацкія цыгарэты з фільтрам у пачках з фірменным знакам "БП" паступяць у гандлёвую сетку ў канцы красавіка.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## У рэйтынг-лісце нацыянальных футбольных зборных Беларусь апусцілася з 78-га на 83-е месца

У новым штомесячным рэйтынг-лісце нацыянальных зборных, распаўсюджаным 14 красавіка Міжнароднай федэрацыяй футболу (ФІФА), Беларусь апусцілася з 78-га на 83-е месца, а колькасць набраных ёю ачкоў паменшылася з 511 да 500. Суседзямі Беларусі ў цяперашнім рэйтынгу з'яўляюцца Гватэмала (502 ачкі) і Гана (498).

Вось як выглядае дзесятка лідэраў.

1. Бразілія — 840
2. Францыя — 821
3. Іспанія — 790
4. Мексіка — 742
5. Галандыя — 740
5. Аргенціна — 740
7. Германія — 735
8. Турцыя — 732
9. Чэхія — 729
10. Англія — 724

Рэйтынг сапернікаў зборнай Беларусі па 5-й адборачнай групе чэмпіянату свету 2006 года:

11. Італія — 722
36. Славенія — 625
38. Нарвегія — 616
61. Шатландыя — 540
104. Малдова — 432

Усяго ў рэйтынг-ліст ўключаны 204 нацыянальныя зборныя.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

